*ЦЕПЛАТРАСА*

# Апрасоўка як яна ёсць

*МАЛАДЗЕЧНА. З 15 мая ў горадзе чарговы раз адключылі гарачую ваду. Пра абставіны, якія замінаюць маладзечанцам карыстацца такой неабходнай паслугай, "РГ" расказвае з дапамогай вядучага інжынера цеплавых сетак МЭСа* ***Яніны Сянько:***

– 2 разы на год (пасля заканчэння і перад пачаткам ацяпляльнага сезона) праводзіцца апрасоўка – выяўленне дэфектаў у цеплавых сетках. Натуральна, рашэнне праводзіць апрасоўку так часта выглядае небясспрэчным, лагічней было б усе няспраўнасці прадухіляць за адзін раз – пасля ацяпляльнага сезона, прыкладам. Хаця па нарматыўных дакументах патрэбна 2 разы.

А знакамітая апрасоўка праводзіцца наступным чынам. Трубы правяраюцца пускам вады пад вялікім ціскам – не менш за 16 атмасфер. Дарэчы, згодна з "Правіламі тэхнічнай эксплуатацыі цеплавых сетак", ціск вады пры выпрабаванні павінен не менш, як у 1,25 раза перавышаць рабочы. На першай кацельні рабочы ціск – 6 атмасфер, на другой – 9,5. Але ў "Правілах..." дадзена, што ні ў якім выпадку лічба пры выпрабаваннях не павінна быць меней за 16. А падзяліце 16 на 6 – і атрымаецца, што на некаторых участках ціск большы за рабочы ў 2,67 раза. Можа, таму так часта рвуцца трубы?

Уся апрасоўка робіцца тыдзень. Тры дні да гэтага ідуць на адключэнне і правядзенне прафілактычных работ. Пасля апрасоўкі яшчэ тры дні ідзе на падключэнне і рамонтныя работы. Бывае, што ў першы дзень пасля адключэння з кранаў цячэ гарачая вада. Цеплавікі тлумачаць гэта тым, што некаторы час яна пераганяецца па трубах, каб хутчэй астыла (тэмпература вады пры апрасоўцы павінна быць 45 градусаў).

Таксама здараецца, што пасля ўключэння некаторы час ідзе "летняя" вада. Часцей за ўсё, домакіраўніцтва ўключае спажыўцоў крыху раней, чым гарачая вада дойдзе да іх дома.

Кажуць, схема адпрацаваная за многія гады дасканала. Хаця лагічней было б праводзіць выпрабаванні без адключэння ўсяго горада адразу (пры чым тут "парашкі", калі праводзіяць апрасоўку ў шостым мікрараёне?).

У "нармальных" буйных гарадах (як, да прыкладу, у Мінску) цепласеткі кальцавыя (там ёсць некалькі ўваходаў) і ў гэты перыяд адключаюцца асобныя раёны на некалькі дзён.

Чаму так нельга зрабіць у нас? Аказваецца, гэта магчыма, калі задзейнічаць усе 2 кацельні, але заведзена так, што ўлетку працуе толькі адна. Яніна Сянько тлумачыць гэта дарагавізнай паліва (зразумела, лягчэй падтрымліваць работу ў адной кацельні, чым ў дзвюх).



*Вядучы інжынер цеплавых сетак МЭСа Яніна Сянько.*
**ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.**

Хаця, як відаць, плюсы такой сістэмы незразумелыя людзям, ад якіх нешта залежыць. А так усё добра: увесь горад застаецца без гарачай вады на 2 тыдні і нікому пра гэта галава не баліць.

***Юрый КАРПІЦКІ.***

*СПАЖЫВЕЦ*

## Калі вы купілі няякасны тавар, то вам павінны адразу вярнуць грошы

МАЛАДЗЕЧНА. 2 мая спажывец купіў у адным з магазінаў электрабрытву. 3 мая яна ўжо не працавала. Гандляры яму паабяцалі адрамантаваць тавар. 15 мая спажывец забраў яе з рамонту, а 16 мая брытва зноў зламалася.

Спажывец хоча вярнуць грошы, у чым адмаўляе адміністрацыя гандлёвага пункта, спасылаючыся на артыкул 11 закона "Аб абароне правоў спажыўцоў", дзе гаворыцца, што пры куплі тавару належнай якасці вярнуць грошы можна толькі ў перыяд 14 дзён з дня куплі.

Галоўная памылка спажыўца ў тым, што ён аддаў брытву ў рамонт. Артыкул 10 таго ж закона гаворыць: спажывец, якому прададзены тавар неналежнай якасці, калі яго недахопы не былі агавораны прадаўцом, можа патрабаваць ці бязвыплатнага ўхілення недахопаў тавару, ці кампенсавання сваіх страт па ўхіленні недахопаў, ці суразмернага змяншэння пакупной цаны, ці замены такога тавару таварам належнай якасці, ці скасавання дагавора і кампенсавання панесеных страт.

Як відаць, спажывец выбраў першы пункт. Ён патлумачыў гэта тым, што яго ўгаварылі так зрабіць у магазіне, хаця ведайце, што патрабаванне вярнуць грошы павінна быць выканана адразу, калі гэта тавар неналежнай якасці.

Цяпер, каб мець шанц вярнуць грошы, патрэбна накіраваць брытву на экспертызу, і калі спецыялісты дадуць заключэнне, што тавар быў адразу неналежнай якасці, тады страты могуць кампенсавацца.

Наш герой тлумачыў свае дзеянні няведаннем сваіх правоў. Цяпер жа яму патрэбна патраціць свае час і нервы, каб вярнуць грошы, хаця ўсё можна было зрабіць прасцей.

За май у таварыстве абароны спажыўцоў абсалютная большасць заяў ізноў тычылася якасці абутку. Пра тое, што трэба рабіць у такіх выпадках, мы пісалі ў №17 за 28 красавіка–4 мая.

Лягчэй за ўсё вырашыць справу на сваю карысць, калі вы купляеце тавар па сваім месцы жыхарства – у Маладзечне, Смаргоні і г. д. Тады намнога прасцей знайсці гандляра і скласці яму прэтэнзію.

У той жа час, калі вы няякасны тавар набылі на "Лебядзіным", працэдура зойме некалькі тыдняў. Звычайна ж, справа цягнецца адзін ці некалькі дзён.

***Юрый КАРПІЦКІ.***

*ТРАНСПАРТ*

## На летні перыяд уводзяцца абмежаванні руху цяжкавосевых транспартных сродкаў

МІНСК. У чэрвені-жніўні ў Беларусі будуць дзейнічаць абмежаванні руху транспартных сродкаў з нагрузкай на вось больш за 6 тон па аўтамабільных дарогах з асфальтабетонным пакрыццём. Рух гэтых транспартных сродкаў будзе абмежаваны ў дзённы час сутак з 10 да 22 гадзін пры тэмпературы паветра вышэй за 25 градусаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Камітэта па аўтадарогах, абмежаванні ўводзяцца ў сувязі з тым, што павелічэнне тэмпературы паветра ўлетку ў дзённы час да 25 градусаў і вышэй адмоўна адбіваецца на працаздольнасці дарожных пакрыццяў. Абмежаванні не закрануць транспартныя сродкі, якія ажыццяўляюць перавозкі грузаў, што хутка псуюцца, і перавозкі, звязаныя з прадухіленнем або ліквідацыяй надзвычайных сітуацый.

Кіраўнікам прадпрыемстваў рэспубліканскіх аўтамабільных дарог даручана арганізаваць штодзённыя патрульныя агляды дарог і забяспечыць кантроль за рухам транспартных сродкаў з улікам устаноўленых абмежаванняў. На асноўных уездах у рэспубліку павінны быць своечасова ўстаноўлены адпаведныя знакі. За пашкоджанні дарогі, выкліканыя рухам транспартных сродкаў з парушэннем устаноўленых абмежаванняў, вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

***Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.***

*"РГ"–СТАТЫСТЫКА*

## Заработная плата ў рэгіёне

*Прапануем вам сярэднія заработныя платы ў раёнах нашага рэгіёна за красавік*

| | Сярэдняя | Прамысл. | Найбольшая | Найменшая |
|---|---|---|---|---|
| Маладзечна | 43779 | 46747 | 90167(б) | 29153(к) |
| Маладзечанскі раён | 41005 | 44992 | 48777(ак) | 33649(к) |
| Астравецкі раён | 31092 | 36500 | 62580(б) | 19000(н) |
| Ашмянскі раён | 32196 | 38949 | 71713(б) | 20821(с/г) |
| Валожынскі раён | 32772 | 43635 | 50323(а) | 18667(ф) |
| Вілейскі раён | 34155 | 43041 | 64611(кр) | 23429(к) |
| Мядзельскі раён | 35308 | 46049 | 57882(б) | 27900(с/г) |
| Смаргонскі раён | 33213 | 33883 | 68498(б) | 18316(н) |

Умоўныя абазначэнні: у дужках пазначаныя галіны дзейнасці: б – банкаўская сфера, ак – апарат кіравання, а – адпачынак і турызм, кр – крэдытаванне і будаўніцтва, к – культура, ф – фізкультура і спорт, с/г – сельская гаспадарка, н – невытворчыя віды бытавога абслугоўвання насельніцтва.

***Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.***

*ВЫТВОРЧАСЦЬ*

## Трактары драбнеюць

СМАРГОНЬ. Споўнілася 10 год, як смаргонскі агрэгатны завод перайшоў да серыйнай вытворчасці міні-трактароў і матаблокаў.

Базіравацца на ўжо асвоеных тыпах машын у будучым нельга, абыдуць канкурэнты, асабліва расійскія, таму прыярытэтам нумар адзін з'яўляецца аднаўленне наменклатуры міні–тэхнікі. Цяпер ідуць выпрабаванні новага трактара МТЗ–090. Другім напрамкам з'яўляецца расшырэнне вытворчасці навясных прыстасаванняў да гэтай тэхнікі.

Не адмовілася прадпрыемства і ад выпуску камунальнай міні–тэхнікі. Яшчэ на свабодных плошчах (іх тут больш за 40 тысяч квадратных метраў) намячаецца выпуск лесанарыхтоўчай тэхнікі. Для гэтага ствараюцца новыя рабочыя месцы, ідзе набор спецыялістаў. А да канца года паступіць яшчэ 13 адзінак абсталявання, у тым ліку, 2 апрацоўчыя цэнтры.

***Павел МАКЛЮК.***

*РЫНАК ПРАЦЫ*

## Мядзельчане ад'язджаюць. Пакуль на заработкі

МЯДЗЕЛ. Каля 3 месяцаў працуе тут аддзяленне сталічнай турфірмы. Найчасцей мядзельчане звяртаюцца па візы ў Літву і Германію.

Некалькі чалавек уладкаваліся на работу нават у Грэцыю. А вось каб адпачыць ля цёплага мора, то пакуль ахвочых не надта. Мяркуюць, ад пачатку летняга сезона пабольшае.

***Алесь ВЫСОЦКІ.***

## Гораду – макарона, беспрацоўным – работа

МЯДЗЕЛ. Дапамога ад абласнога ўпраўлення занятасці выдзеленая сістэме грамадскага харчавання горада: набытыя лінія па вытворчасці макароны і апарат для вытворчасці пернікаў і пячэння. На створаныя месцы мяркуюць прыняць беспрацоўных.

***Алесь ВЫСОЦКІ.***

*АБСЛУГОЎВАННЕ*

## Новая цырульня ў смаргонскай лазні

СМАРГОНЬ. Больш за паўгода ў лазні горада не працавала цырульня. Дзякуючы прадпрымальнікам Марыі Бойцы і Кацярыне Філіпцовай, якія арандуюць памяшканне, жыхары горада цяпер маюць магчымасць не толькі памыцца і адпачыць, але і з дапамогай спецыялістаў прывесці ў парадак свае прычоскі. Цырульня зручная яшчэ і тым, што працуе 6 дзён на тыдзень.

***Іван ШПАЛАЎ.***

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 18 мая | 25 мая |
|---|---|---|
| Долар | 525,00 руб. | 550,00 руб. |
| Марка Герм. | 241,69 руб. | 254,47 руб. |
| Літ | 131,28 руб. | 137,53 руб. |
| Рас. руб. | 18,57 руб. | 19,45 руб. |
| Злоты | 117,32 руб. | 121,55 руб. |
| ЕЎРА | 472,71 руб. | 497,69 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 990 руб. | 970 – 990 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 17.05 | 24.05 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | – | 4230 |
| Сасіскі | 1 кг | 1450 | 1228 |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | – |
| Рыс | 1 кг | 340 | 340 |
| Грэчка | 1 кг | 570 | 560 |
| Цукар | 1 кг | 258 | 275 |
| Алей | 1 л | 660 | 660 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 380 | 385 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | 270 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 215 | 215 |
| Лімоны | 1 кг | 850 | 850 |
| Апельсіны | 1 кг | 600 | 580 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | 160 |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | 420 |
| Морква | 1 кг | 250 | 220 |
| Капуста | 1 кг | 230 | 220 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 600 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1400 | 1400 |
| Тварог | 1 кг | 400 | 450 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 200 |
| Бульба | вядро | 500 | 500 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | 500 |
| Радыска | 1 пучок | 100 | 100 |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 100 | 100 |
| Кроп | 1 пучок | 100 | 50 |
| Салата | 1 пучок | 50 | 50 |

## Расклад руху электрацягнікоў
### па ст. Маладзечна з 28.05.2000 г.

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | Без прыпынкаў | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|
| 4.34 | 6.16 | Сел., Крыж. | 4.30 | 6.05 | |
| 5.31 | 7.18 | | 5.21 | 7.04 | |
| 6.02 | 7.44 | Сел., Крыж. | 6.23 | 8.12 | |
| 6.32 | 8.19 | | 6.55 | 8.20 | суб. |
| 7.29 | 9.16 | | 7.36 | 9.25 | |
| 8.27 | 10.16 | | 8.20 | 10.07 | |
| 9.14 | 10.47 | суб. Рам., Прал., Вяз., Ан., Хмел., Зял., Крыж., М. М., Леб. | 9.00 | 10.47 | |
| 9.41 | 11.29 | | 10.00 | 11.47 | |
| 10.58 | 12.46 | | 10.39 | 12.24 | вых. |
| 12.16 | 13.54 | вых. Рам., Ан., Хмел., Зял., Крыж. | 11.10 | 12.58 | |
| 12.51 | 14.42 | | 12.02 | 13.49 | |
| 13.41 | 15.29 | | 12.56 | 14.44 | |
| 14.35 | 16.24 | | 13.38 | 15.23 | |
| 15.31 | 17.18 | | 15.04 | 16.38 | птн,вых. |
| 16.02 | 17.32 | птн, вых. Сел., Крыж., Ласі, Рам., Вяз., Ан., Хмел., Зял. | 15.36 | 17.23 | |
| 16.39 | 18.26 | | 16.15 | 18.11 | |
| 17.15 | 19.01 | | 16.44 | 18.39 | |
| 17.50 | 19.36 | | 17.35 | 19.32 | |
| 18.40 | 20.26 | | 18.37 | 20.24 | |
| 19.48 | 21.29 | | 19.16 | 21.03 | |
| 20.26 | 22.10 | Леб., | 20.36 | 22.19 | |
| 21.05 | 22.50 | Леб., | 21.30 | 23.11 | |
| 22.26 | 23.54 | Сел., Ласі., Рам., Прал., Ан., Хмел., Зял., М. М., Леб. | 22.33 | 0.09 | |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна

| Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | Заўвага | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.36 | 10.16 | | 5.27 | 7.12 | |
| 13.22 | 15.08 | вых. | 10.31 | 12.09 | |
| 15.46 | 17.26 | | 15.35 | 17.20 | вых. |
| 18.03 | 19.51 | | 17.41 | 19.18 | |
| 20.37 | 22.17 | | 20.19 | 21.57 | |

| Маладзечна адпр. | Ліда прыб. | Заўвага | Ліда адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 7.32 | 9.03 | Багд., суб. | 3.54 | 7.07 | |
| 8.29 | 11.39 | | 9.58 | 11.30 | Багд., суб. |
| 12.33 | 15.46 | вых. | 8.45 | 12.00 | |
| 13.13 | 15.12 | Юрац., птн. | 12.02 | 15.20 | вых. |
| 14.29 | 16.32 | Юрац., ндз. | 15.32 | 17.30 | Юрац., птн. |
| 17.58 | 21.26 | | 16.11 | 19.25 | |
| 20.32 | 23.46 | | 18.46 | 20.48 | Юрац., ндз. |

| Маладзечна адпр. | Крулеўшчына прыб. | Заўвага | Крулеўшчына адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 7.19 | 9.16 | Параф'янаў, вых. | 4.35 | 6.58 | |
| 8.30 | 10.50 | Полацк, штодз. | 9.36 | 11.38 | вых. |
| 12.27 | 14.56 | вых. | 15.18 | 17.40 | вых. |
| 20.40 | 22.57 | | 17.07 | 19.34 | Полацк |
| | | | 19.35 | 22.09 | Полацк, птн. |

*Даведкі па тэл. у Маладзечне 005.*

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

*Май зямлю саграваe, а сіверам патыхае". І ўсё ж: "Май – жывёлу ў поле пхай".*

**28 мая – Пахом**. Калі Макей "распараджаўся" дажджамі, то Пахом – цяплом: "Пахам павее цяплом". Ён жа спрыяў добраму ўраджаю агуркоў: "Сей гуркі, як прыйшоў Пахом, будзеш потым збіраць мяхом".

### ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Як шкодна не есці ад раніцы

У знаёмага камп'ютэршчыка Вадзіма ёсць кацяня. Зваць, натуральна, Байт. Есці ён хоча ўвесь час, ежу кленчыць бесперапынна. Ненажэрны нейкі, замучыў там усіх.

Кладзецца спаць Вадзім позна. Аднойчы ідзе па калідоры, на кухні святло гарыць. З калідора відаць толькі частку кухні, стол і халадзільнік. І вось ля гэтага халадзільніка сядзіць Байт і чымсьці актыўна–апантана сілкуецца. Мусіць, з пліты сцягнуў. Увечары кацяня паела ўжо, і неслаба, таму Вадзім з раздражненнем пытаецца:

– Што, ізноў жарэш, стварэнне?!

Праз секунду з таго кута кухні, што не праглядаўся з калідора, чуваць голас цешчы:

– Ну, што ты, Вадзімчык, я ж ад самай раніцы не ела...

Адсюль, мусіць, і нараджаюцца казкі пра кепскую цешчу. Расказала пра ўсё жонка Вадзіма. Пасля той гісторыі яны ўтрох доўга смяяліся.

*Запісаў Сямён РАБІНОВІЧ.*

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Частаваць можна, няволіць грэх



## Салата закусачная

***1 рэдзька, 1 свежы агурок, 50 г зялёнай цыбулі, 100 г смятаны.***

Абабраную рэдзьку надзерці на буйной тарцы, агуркі свежыя парэзаць саломкай, цыбулю нашынкаваць.

Падрыхтаваную гародніну перамяшаць, паліць смятанай.

## Запяканка па-ірландску

***10 бульбін, 100 г бараніны, мясны булён, перац, соль.***

***Для цеста: 5 вял. лыжак мукі, 4 вял. лыжкі тлушчу, 1–2 яйкі, соль, 1/3 мал. лыжкі соды.***

Бульбу і мяса бараніны парэзаць дробнымі кубікамі, пакласці ў глыбокую патэльню, дадаць соль, перац і заліць моцным мясным булёнам так, каб пакрыць змесціва. Зверху пакласці слой папярэдне замешанага пясочнага цеста і выпякаць на працягу 1,5 гадзіны ў духоўцы.

## Карнавальная ружа

***100 г мукі, 5 жаўткоў, 3 вялікія лыжкі смятаны, 1 вял. лыжка воцату, дробка солі, тлушч для смажання, цукровая пудра, джэм.***

Муку, жаўткі, смятану і воцат акуратна вымесіць, каб атрымалася пышнае цеста. Затым раскатаць цеста, выразаць з яго кружочкі ў трох розных велічынях, па баках зрабіць пяць надрэзаў. Сярэдзінкі кружкоў змазаць бялком, пакласці адзін на адзін і прыціснуць, каб склеіліся. Смажыць у гарачым тлушчы. Пасыпаць цукровай пудрай, а ў сярэдзіну пакласці масла або тлушч.

### ПРОСТА АНЕКДОТ

***Мы віншуем усіх пагранічнікаў рэгіёна (былых і цяперашніх) з іхнім "прафесійным" святам і запрашаем усміхнуцца разам з іншымі чытачамі. Першы анекдот расказалі, натуральна, у Смаргоні.***

Пагранічнік з сабакам ідзе ўздоўж мяжы. Нейкі шоргат у хмызняку. Пагранічнік кажа сабаку:

– Ідзі, зірні, што там такое!

– Сам ідзі! А я і адсюль магу пабрахаць.

***А гэты пачуў у Маладзечне, ад мытнікаў.***

Парушальнік (з таго боку):

– Скажыце, а што, мяжа па–ранейшым на замку?

Пагранічнік (з цяжкім уздыхам):

– Так, на замку! А то сам бы даўно сышоў...

### РАЗМІНКА ДЛЯ ГАЛАВЫ



## Паварушы мазгамі, №9

Салют! Якім Пярэчка і рубрыка для ўсіх узростаў "Паварушы мазгамі" вітаюць вас на старонках "РГ". Калі ты, мой чытач, правільна выканаў заданне, то ў цябе атрымалася наступнае:




Віляйчане зноў наперадзе! **Іван Клімёнак** са слаўнага горада з-над Вяллі, патэлефануйце нам. Менавіта на вас выпаў прыз. Яго можна забраць у рэдакцыі, можам выслаць і поштай. Віншуем. Акрамя Івана правільна рашылі заданне яго зямлячка **Света Клімовіч**, а таксама маладзечанцы **Яўген Булычаў, Іван Жамойдзін, Аляксандр Івашка, Андрэй Ляхновіч, Таццяна Панчанка, Раман Рай, Ірына Сахацкая, Каця Северына, Сяргей Стрэж, Юрый Юхневіч, Таня Рухля**.

## Квадрат з даміно

Перакладзі ў квадраце косткі даміно такім чынам, каб сума ў чатырох гарызантальных, а таксама сума ў чатырох вертыкальных радах была роўная 16. Косткі 6:4, а таксама 3:3 пакінуць на месцы. Паварушы мазгамі!

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 | 3 | 5 | 1 |
| 4 | 6 | 4 | 3 |
| 6 | 2 | 5 | 3 |
| 6 | 6 | 1 | 3 |

**Дашлі рашэнне на паштоўцы** на адрас рэдакцыі і будзеш мець шанц выйграць прыз ад "Рэгіянальнай газеты". Да наступнай пятніцы!

Каця С.! Ты ўсё зрабіла правільна. Не адчайвайся. Кожны тыдзень мая шапка напаўняецца новымі нумаркамі, якія камусьці ды прыносяць шчасце. Вышэй нос – абавязкова пашанцуе!

*Ваш Якім ПЯРЭЧКА.*

### НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Ахвяра дэнамінацыі

Каля пад'езда поўным ходам ішла бойка. Старая кабета выбівачкай лупіла мужчыну, які ледзь трымаўся на нагах. Па твары мужчыны было відаць, што ён недзе нечым "прычасціўся". Звычайная справа па нашым часе, каб не лямант.

– Прапіў пенсію, гад! Не ўпільнавала! Атрымаў у суседзяў, каб ім ручкі паадсыхалі, – і прапіў! Дзе ж гэта праўда? Нажарэцца, а мне да наступнай пенсіі хоць ты галадай! Абібок кульгавы!

Мужык, як мог, бараніўся, але было відаць, што не вельмі мог: не слухаліся рукі. Але адлайваўся, больш для парадку.

– Дык што ж мне, чарку не выпіць? Вось сябры і адсвяткавалі. Не за свой жа кошт піў. А што кульгавы, дык затое ж ты ў мяне, як сонца. Аднаго жару на трох маладзіц будзе. Годзе біцца! Людзі ж глядзяць!

– А ці бачылі людзі п'яную тваю морду, каб парады мне даваць?

З пад'езда выйшла суседка.

– Што ўжо не падзялілі? За што ж інваліда лупцуеш? Ён жа кажа, што ўсе грошы табе аддаў?

– Хіба ж гэта ўсё? Амаль сорак мільёнаў налічылі, а што ён мне аддаў?

Яна паказала рэшту. Суседка засмяялася, бо зразумела, што тая, замест мільённых купюраў, лічыла тысячныя. Пры сумесных падліках высветлілася, што пенсію аддаў мужчына да капейкі...

Калі ўвечары я вяртаўся дадому міма гэтага месца, ахвяра дэнамінацыі сядзела з мужыкамі на тым самым месцы і разважала на ўсе хвалюючыя іх тэмы. У тым ліку, і пра дэнамінацыю.

*Алесь РАЛАВЕЦ.*

### ПЫТАННЕ – АДКАЗ

***– Што такое сама цнатлівасць, непасрэднасць?***

– Манахіня, якая працуе на заводзе па выпуску прэзерватываў і лічыць, што гэта спальныя мяшкі для таракнаў.

### АПТЫМІЗМ ПРАДКАЗАЛЬНІКА

– Калі табе наканавана загінуць у авіякатастрофе, то на цягнік, дзе ты будзеш ехаць, упадзе самалёт.



*Непрыемнасць тыдня.*
ФОТА З INTERNET-АРХІВА «РГ».

### ГАРАСКОП 29 МАЯ – 4 ЧЭРВЕНЯ



**Авен (21.03–20.04)**

Вы будзеце схільныя да неабдуманых учынкаў, што можа пацягнуць за сабой абвастрэнне адносінаў. У той жа час, у гэтыя дні – творчы пад'ём і "рэактыўныя" рашэнні ўсіх пытанняў.



**Цялец (21.04–21.05)**

Жанчын гэтага знака чакае ўсплёск захаплення і прызнанняў. Бізнес-дамам варта запланаваць некалькі дзелавых сустрэч, поспех забяспечаны. Аднак магчымыя невялікія траўмы.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Добры перыяд для творчасці. Вас ацэняць, да вашых парад прыслухаюцца. У зносінах лепш пазбягаць моцных апанентаў і не выходзіць за рамкі блізкага круга.



**Рак (22.06–23.07)**

Працягваецца не самы бяспечны перыяд. Правільнае рашэнне – абмежаваць кантакты. З іншага боку, нейкія ўплывовыя людзі змогуць ацаніць вашу адданасць справе.



**Леў (24.07–23.08)**

Вы можаце "правароніць" выдатныя шанцы зарабіць або павысіць свой сацыяльны статус таму, што праявіцца ваш кансерватызм і нежаданне штонебудзь мяняць. Але к канцу мая гэты стан пройдзе, а шанцы могуць не паўтарыцца.



**Дзева (24.08–23.09)**

Неўраўнаважанасць і абвостраная інтуіцыя могуць даставіць дыскамфорт. Але вы занадта вялікі матэрыяліст, каб не скарыстаць уласнае "прадбачанне". Таму будзьце ўважлівыя да сваіх пачуццяў.



**Шалі (24.09–23.10)**

Вам не адмовіш у асцярожнасці. І тым не менш, у гэты перыяд, вы будзеце схільныя адмерваць 77 раз. Магчыма, гэта і ўтрымае вас ад памылак, але з такім жа поспехам лепш нічога не прадпрымаць.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

У многіх Скарпіёнаў менавіта на гэтым тыдні будзе дасягнутая даўно пастаўленая мэта. За паласой няўдач ідзе добрая перадышка. Скарыстайце яе.



**Стралец (23.11–21.12)**

Праявяцца лянота і апатыя. Ніякія намаганні гэтага перыяду не змогуць прынесці чакаемых вынікаў. Такое ўражанне, што нехта спецыяльна падкладае камяні пад колы.



**Казярог (22.12–20.01)**

Асцерагайцеся згубіць работу, стабільны даход. Гэты перыяд прадоўжыцца не вельмі доўга, аднак можа прынесці непрыемнасці. У той жа час, наперадзе маячыць вельмі перспектыўнае падарожжа.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Ці не варта крыху прытармазіць? Праводзьце як мага больш часу ў сям'і, з дзецьмі, з блізкімі сябрамі. Не пашкодзіць і адзінота, асабліва ўдалечыні ад гарадскога шуму.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Шчаслівыя дні для тых, хто жыве з вамі побач. Метамарфозы Рыб, бывае, уражваюць і іх саміх: спагадлівасць, жаданне выканаць любы капрыз партнёра, імкненне быць з усімі ў згодзе. Усё гэта прынясе задавальненне і самім Рыбам.

### КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*

**Па гарызанталях:** 4. Плод капусты. 6. Спецыяльны прыбор, механічнае ўстройства. 8. Пры прыгонным праве: хатнія слугі ў памешчыцкім доме. 9. Драма з вострай інтрыгай, з рэзкім процiпастаўленнем дабра і зла. 13. Травяністая расліна сям'і парасонавых, насенне якой скарыстоўваецца як прыправа. 16. Тое, да чаго імкнуцца, што трэба ажыццявіць. 18. Група ўючных жывёл, якія перавозяць грузы і людзей. 20. Двухбаковы дыван без ворсу. 21. Манах – член каталіцкага манаскага ордэна. 22. Тое, што складае вышэйшую мэту дзейнасці, імкненняў. 23. Бервяно або брус у ніжняй частцы дзвярнога праёма. 24. Дэкаратыўная кустовая расліна сям'і верасовых з белымі, жоўтымі і іншымі кветкамі. 26. Шлях зносін, лінія сувязі, што праходзіць уздоўж лініі сувязі. 27. Спартыўная камандная гульня; футбол на матацыклах. 28. Тлушч з насення раслін. 29. Вялікі марскі рак. 33. Порыстая пластмаса. 36. Свойская малочная жывёла. 37. Гумка для сцірання напісанага алоўкам. 38. Прадаўгаватая, цыліндрычнай формы падушачка для канапы, тахты.

**Па вертыкалях:** 1. Вадаплаўная птушка. 2. Радыёлакацыйная ўстаноўка. 3. Крайняя дошка пры падоўжанай распілоўцы бервяна. 5. Апытальны ліст для атрымання якіх–небудзь звестак пра таго, хто яго запаўняе. 7. Тленне, гніенне, распад. 8. Ігральная карта з відарысам жанчыны. 10. Стрэшка над студняй. 11. Чалавек, які атрымлівае пенсію. 12. Тэрміновае паведамленне, якое перадаецца па тэлеграфе або радыё. 14. Масавая народная гульня – рух людзей па крузе з песнямі, танцамі. 15. Лёгкі і эластычны сінтэтычны матэрыял. 17. Вялікі і пышны будынак, які вылучаецца сваёй пышнасцю. 19. Заліў, утвораны морам у нізоўях ракі, а таксама салёнае возера, паблізу мора, звычайна багатае лячэбнымі гразямі. 25. У старажытнай Русі: паднявольная асоба, блізкая па становішчы да раба. 28. Тое, што і карандаш. 30. Вузкі прадаўгаваты кавалак тканіны для выцірання твара, рук ці посуду. 31. Марская прамысловая рыба сям'і ласасёвых. 32. Невысокая жывёліна, падобная на каня, з вялікай мордай і доўгімі вушамі. 34. Снежная лавіна або абломкі скал, камяні, якія абрушваюцца з гор. 35. Цыбульная расліна з прамым сцяблом і буйнымі кветкамі ў выглядзе звана.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №20*

**Па гарызанталях:** 1. Матуля. 7. Ідэал. 11. Бабуля. 18. Этыка. 19. Стома. 20. Аэрапорт. 21. Тата. 22. Стагоддзе. 23. Лужа. 25. Кузурка. 26. Цымус. 29. Лыжа. 30. Банк. 31. Адыход. 33. Воўк. 35. Ерь. 37. Арба. 40. Вятрак. 41. Нота. 43. Гад. 44. Сон. 45. Пат. 46. Лаўка. 47. Ют. 48. До.

**Па вертыкалях:** 1. Мэта. 2. Атака. 3. Тытунь. 4. Указка. 5. Ласун. 6. Ястраб. 7. Ітака. 8. Дога. 9. Эмоцыя. 10. Лад. 11. Бэз. 12. Ар. 13. Бар. 14. Уплыў. 15. Лоўж. 16. Яр. 17. Старт. 24. Жарт. 27. Мора. 28. Удаў. 29. Лой. 30. Бег. 32. Два. 34. Кот. 36. "Ра". 38. Ро. 39. "Ап". 41. Ню. 42. Ао.

*Першая ліга*

# Чатыры перамогі запар. Па-ранейшым суха

**21.05 Маладзечна – Трактар (Мінск) 4:0 (2:0)**

Галоўны арбітр В. Сямёнаў (Мінск).
**Галы**: Міхалёў (10, 28, 64), Муравейнікаў (90).

8 Лукін — 11 Турчыновіч (Шаўроў, 66)
10 Міхалёў (Капленка, 69)
9 Тартоўскі — 6 Мігас
7 Багайчук (Бычкоўскі, 46)
3 Кабельскі
5 Сысой — 2 Рагуновіч
4 Муравейнікаў
1 Рубацкі

Мінскія трактаразаводцы сталі чарговай камандай, што адчула на сабе неадхільнасць атак маладзечанцаў. Праўда, напачатку гульня была роўная, госці некалькі разоў пагражалі варотам **Рубацкага**. У гэты час ім удаўся самы небяспечны момант: паўабаронца з выгаднай пазіцыі замыкаў прастрэл, але накіраваў мяч па дузе вышэй і міма варотаў.

Шмат змянілася на 10 хвіліне, калі адбыўся даволі кур'ёзны гол. Пасля падачы вуглавога і гульні галавою **Лукіным** абаронца мінчан няўдала выбіў мяч у цэнтр сваёй штрафной, дзе ў **Міхалёва** быў час спыніць мяч, падпрацаваць і накіраваць у левы ад сябе кут. Туды кінуўся варатар **Курыловіч**, але рыкашэт ад другога яго партнера зламіў кіпера на супрацьходзе.

Контратака маладзечанцаў у сярэдзіне тайма завяршылася другім узяццем варотаў. **Турчыновіч** з мячом наблізіўся да штрафной па цэнтры, аддаў дакладны пас Міхалёву, які добра адкрыўся злева і метраў з пятнаццаці прабіў паміж варатаром і блізкай штангай.

Маладзечанцы парадавалі зараджанасцю на барацьбу, жаданнем цалкам выкладвацца ў кожным эпізодзе, што і прадвызначыла яшчэ два галы ў другім тайме. Магчыма, гэтых якасцяў не хапала **Багайчуку**, якога замянілі ў перапынку (на яго пазіцыі апорнага паўабаронцы трэнеры далі пагуляць і **Бычкоўскаму**, і **Капленку**).

Некаторыя небяспечныя моманты ў выкананні гаспадароў дубліраваліся па ходзе матча. Непрыкрытаму Лукіну двойчы не хапала лічаных сантыметраў, каб замкнуць на далёкай штанзе класныя дыяганальныя прастрэлы. **Кабельскі** двойчы выконваў штрафныя ўдары метраў з трыццаці, і мяч пралятаў крыху вышэй варотаў. У першым тайме не разабраліся ў штрафной саперніка Лукін, Багайчук (ён дарэмна не ўдарыў з найбольш выгаднай пазіцыі) і Турчыновіч, а ў другой палове гульні тройчы запар білі ва ўпор **Шаўроў** (ён даволі актыўна правёў свае дваццаць пяць хвілін), Лукін і Бычкоўскі, аднак Курыловіч у гэтай сітуацыі дзейнічаў выдатна. Мінчане амаль не пагражалі нашым землякам, білі з не надта небяспечных пазіцый, а некалькі контратак не скарысталі.

Забівалі ў другім тайме так. Пас з глыбіні поля знайшоў метрах у дваццаці ад варотаў Лукіна, які добра апрацаваў мяч у акружэнні абаронцаў і ўдарыў. Адскок ад штангі спакойна дабіваў свабодны Міхалёў (3:0). Нестандартна разыгралі штрафны: Лукін хітра накіраваў мяч паўзверх сценкі ў правы ніжні кут. Галкіпер выцягнуў мяч, але тут як тут быў Бычкоўскі, які, змагаючыся на вонкавай лініі збоку ад варотаў з трыма праціўнікамі, адпасаваў у цэнтр, дзе **Муравейнікаву** (а ён жа апошні абаронца!) нічога не заставалася, як увагнаць чацверты «цвік».

**Людас Румбуціс** ("Маладзечна"):

– Вынік сам кажа пра сябе. Гульня неблагая, і па момантах, і па ліку. Мы паступова знаходзім сваю гульню, стабілізавалі склад, крыху згуляліся, але яшчэ вельмі далёка да нармальнай гульні. Справа ў тым, што мы трэніруемся на жудасных палях у Заскавічах, у Маладзечне, якія нельга параўнаць нават з гэтым у Чысці.

– Цяпер "Маладзечна" і "Лунінец" атрымліваюць дзяжурныя перамогі. Як лічыце, гэта працягнецца да фінішу чэмпіянату альбо ўсё ж-такі трэба чакаць значныя ачковыя страты?

– Не ведаю. Пакуль шмат залежыць ад узроўню сапернікаў. У нас яны былі мацнейшыя.

– А калі будуць відавочна слабыя, як, прыкладам, "Палессе" ў наступным туры, ці не ўзнікне некаторая недаацэнка праціўніка?

– Калі ў некага з гульцоў узнікне, дык яны проста не будуць гуляць. На поле выйдуць тыя, хто жадае гуляць.

**Аляксандр Сідаровіч** ("Трактар"):

– У нас вельмі цяжкае фінансавае становішча, дрэнная арганізацыя справы. Таму і буйна прайграем камандам, дзе ўсё пастаўлена на больш высокі ўзровень.

– Вы ўжо гулялі з "Лунінцам". Параўнайце, калі ласка, гэтую каманду і "Маладзечна".

– Мы тады на старце чэмпіянату былі на ўздыме, саступілі ўсяго адзін мяч. Скажу, што па ўзроўні падрыхтоўкі, па кадравым складзе мне "Лунінец" падаецца больш салідная камандай. Яны пастаянна трымаюць саперніка ў напрузе, тады як маладзечанцам гэта ўдаецца толькі эпізодамі.

Два пытанні **Віталю Міхалёву**:

– З перамогай, з хет-трыкам. Вас замянілі пасля трох забітых галоў – можна сказаць, што аддалі ўсе сілы на полі і забяспечылі вынік?

– Ну, так. Стаміўся пад заканчэнне. Не мог далей падтрымліваць тэмп.

– Тое, што вы год правялі ў Бабруйску, але вярнуліся ў "Маладзечна", мае нейкае значэнне ў псіхалагічным плане?

– Ды не. Проста трэба імкнуцца гуляць лепш, прагрэсіраваць, расці. У гэтым плане "Маладзечна" падыходзіць.

Свіслач-Дах – Палессе 3:1, Рагачоў – ЗЛіН 0:0, Лунінец – Вейна-Днепр 2:0, Зорка-ВА-БДУ – Хімік 2:2, Граніт – Керамік 2:1, Дынама-Юні – Орша 1:1, Тарпеда – Нёман 2:1.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| КАМАНДА | АЧКІ |
|---|---|
| 1. Лунінец | 16 |
| 2. Граніт | 15 |
| 3. ФК «МАЛАДЗЕЧНА» | 14 |
| 4. Зорка-ВА-БДУ | 10 |
| 5. Свіслач-Дах | 10 |
| 6. Нёман | 10 |
| 7. Трактар | 9 |
| 8. Рагачоў | 9 |
| 9. Керамік | 9 |
| 10. Тарпеда | 9 |
| 11. Орша | 8 |
| 12. Дынама-Юні | 5 |
| 13. Хімік | 4 |
| 14. ЗЛіН | 2 |
| 15. Вейна-Дынама | 1 |
| 16. Палессе | 0 |

**Бамбардзіры:** Шушкевіч (Зорка-ВА-БДУ) – 6; **Міхалёў**, Вадз. Байко (Керамік), А. Бахно (Граніт), В. Лясун, Новаш (абодва – Лунінец), Паркулевіч (Свіслач-Дах) – па 4; **Турчыновіч** і іншыя – па 3.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Міні-футбол*

# Бар'ер з будучых фіналістаў

"Металург" завяршыў сезон на турніры памяці **Віктара Янушэўскага** ў Мінску. Матчы праходзілі тры дні па 20 хвілін тайм, але поўнага (не чыстага) часу.

Спачатку былі дзве групы з чатырох каманд. Маладзечанцы ў пятніцу перамаглі добрушскі ДФЗ 8:1 і ўвечары саступілі чэмпіёну Фан-лігі "Хеміксу" 1:2. У суботу былі мацнейшыя за наваполацкі "Белаўтасервіс" 4:2, а ў чвэрцьфінальнай сустрэчы з трэцяй камандай іншай групы віцебскім "Віцязем" – 7:1. Нядзельны паўфінал з "Сімургам" завяршыўся 0:0 у асноўны час, а ў серыі пенальці – паражэнне 1:4. Нашы крыўдзіцелі сустрэліся ў фінале, дзе перамог "Сімург" 2:1. Нягледзячы на адносную няўдачу, па сведчанні спецыялістаў, менавіта "Металург" прадэманстраваў найбольш якасную і цікавую гульню.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Гарадкі*

# Ад Кубка Беларусі да Кубка Еўропы

У Салігорску прайшоў адкрыты Кубак Беларусі па гарадках памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі.

У асабістым заліку ўдзельнічалі амаль усе вядучыя спартсмены кантынента. Шасцёрка лепшых: 1. **Духанін** (Краснадарскі край) – 111 бітаў. 2. **Пагарэлаў** (Запарожжа) – 114. 3. **Сушко** (Маладзечна) – 116. Далей размесціліся расіяне **Нікіцін**, **Палякоў** і **Мярзянаў**. Яшчэ двое нашых **Кулак**-старэйшы і **Карповіч** былі ў другім дзесятку. Паралельна з асабістым першынством, шэсць беларускіх каманд аспрэчвалі ўнутраны Кубак: 1. Мінская вобласць (маладзечанцы Сушко, **Яршэвіч**, **Данілаў**, Кулак-старэйшы). 2. Гродзенская вобласць (прадстаўнікі Бярозаўкі). 3. Горад Маладзечна. Удзельнічала і каманда юнакоў Маладзечанскага раёна.

Адзначым вяртанне ў вялікі спорт рэкардсмена краіны (16 бітаў на 15 фігур) **Аляксандра Яршэвіча** пасля перапынку ў некалькі гадоў.

Агульны камандны турнір сабраў дзесяць калектываў, з іх шэсць замежных. Спачатку змагаліся ў двух падгрупах па пяць удзельнікаў, а трое лепшых выходзілі ў фінальную пульку. Нашым лідэрам з Мінскай вобласці ўдалося ў падгрупе перамагчы ўкраінцаў 3:0 і звесці нічыю з Краснадарскім краем, але потым, відаць, не хапіла сілаў, таму толькі пятае выніковае месца.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Сустрэчы*

# Майстры спорту ў школе

МАЛАДЗЕЧНА. Пад такой назвай прайшоў у сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў (САШМ) спартыўны вечар. Майстры спорту, чэмпіёны краіны і неаднаразовыя пераможцы міжнародных спаборніцтваў **Аляксандр Кулак** (гарадкі), **Святлана Мазнёва** (яна, дарэчы, уваходзіла ў зборную СССР), **Маргарыта Собаль** і **Віктар Даронін** (спартыўная гімнастыка), **Вера Сіняўская** (мнагаборства), ветэран спорту **Пётр Сталбавенка**, дырэктар ДЮСШ (пераможцы агляду-конкурсу сярод ДЮСШ у 1988–99 гадах) **Віктар Мазнёў** і старшыня гарадскога спорткамітэта **Мікалай Шрымф** прыйшлі ў абноўленую спартыўную залу на сустрэчу з дзецьмі.

Дырэктар САШМ **Людміла Васілевіч** пад апладысменты і гукі духавога аркестра ўзнагародзіла вялікую групу вучняў за высокія спартыўныя вынікі і актыўны ўдзел у спартыўным жыцці школы пахвальнымі граматамі.

Афіцыйная частка вечара была насычаная канцэртнымі нумарамі вучняў 1–5 класаў. Убачылі прысутныя і масавыя гімнастычныя практыкаванні з мячамі і стужкамі, і групавыя і індывідуальныя нумары гімнастаў і акрабатаў.

М. Шрымф падарыў школе спартыўныя сувеніры з аўтографамі гасцей.

*Пётр ШКАБАРАЎ.*

*Баскетбол*

# У Віцебск па грамату

ВАЛОЖЫН-ВІЦЕБСК. У паўночнай сталіцы Беларусі адбыўся пяты турнір па баскетболе сярод жанчын на прызы заслужанага майстара спорта **Таццяны Івінскай-Белашапкі**. Меркавалася, што будзе міжнароднае прадстаўніцтва, аднак не прыехалі госці са Смаленска. Разам з трыма мясцовымі камандамі гулялі ў адзін круг брастаўчанкі і нашы землячкі з Валожына.

Яны занялі трэцяе месца (прывезлі грамату, але без прызоў), саступіўшы віцебскім ветэранкам і дзяўчатам з ДЮСШ. Перамаглі ж студэнтак тамтэйшага ўніверсітэта ды каманду з Брэста. Кіравала нашай дэлегацыяй і сама ўдала гуляла **Інга Малашкевіч**. Таксама выдзяляліся на пляцоўцы **Ала Садоўская** і **Вольга Купцэвіч**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Кантрольны матч*

**23.05 Забудова – Маладзечна 2:2 (1:1)**

**Галы**: Дараховіч (35), Смірноў (59); Міpановіч (14), Крывіцкі (85).

У складзе маладзечанцаў выступалі рэзервісты, якія не бралі ўдзел у матчы з "Трактарам". Чысцінцы пасля перапынку таксама далі пагуляць свайму другому складу.

*Анонс*

**27.05 Арбіта (Мінск) – Смаргонь**

**27.05 17.00 Забудова – РШВСМ-Алімпія (Мінск)**

+3=0-1 4-1. Летась 1:0 на выездзе і 0:1 дома

**28.05 Палессе (Казенкі, Мазырскі раён) – Маладзечна**

*Другая ліга*

# На розных палюсах табліцы

**20.05 Смаргонь – Дарыда (Мінск) 1:0 (1:0)**

**Гол:** Селіванаў (36).

**Склад:** Пясецкі, Ал. Канапелька, Селіванаў, Макей, Юркевіч, Д. Курак (В. Курак, 70), Дукса, Якубіцкі, Дзегілевіч (Апяцёнак, 65), Шагойка (Карабінскі, 75), Відук.

Пэўнай мяжой у сюжэце матча стала 36 хвіліна, калі за фол апошняй надзеі супраць **Відука** выдалілі абаронцу гасцей. Метраў з дваццаці па цэнтры быў прызначаны штрафны, як дакладным ударам у ніжні кут выканаў **Селіванаў**.

Да гэтага гульнявую перавагу мелі смаргонцы. Яны карысталіся памылкамі ў шматлікіх перадачах мінчан, у складзе якіх нямала мініфутбалістаў. А пры гульні ў меншасці госці перабудаваліся тактычна, і нашым землякам так і не ўдалося выкарыстаць лішняга футбаліста ў сваім складзе.

Былі чатыры больш-менш спрыяльныя моманты, але ні **Апяцёнак**, ні **Дукса**, ні **Відук** не забілі. Яшчэ раз біў са штрафнога Селіванаў: крыху вышэй. Аднойчы ледзь не забілі "дарыдаўцы", але **Пясецкі**, які падмяніў траўміраванага **Ан. Канапельку**, выцягнуў мяч амаль з "дзявяткі".

**20.05 Азерцы (Глыбокае) – Забудова 1:0 (0:0)**

**Гол:** (50).

**Склад:** Мароз, Нядзелька, Відрук (Балыкін, 56), Івашкевіч, Студэнт, Д. Мятліцкі, Дараховіч, Татун (Смірноў, 46; Рыгаровіч, 56), Лявончык (Садчанка, 80), М. Мятліцкі (Макрыцкі, 46), Чарнель

Пасля выезду "забудоўцы" засведчылі, што яшчэ ніколі не сутыкаліся з падобным судзействам. Тое, што дэманстраваў у Глыбокім мінскі суддзя **Леанід Лазнюха**, было, магчыма, па-за рамкамі закону, не толькі футбольнага, але і грамадзянскага. Двойчы гаспадары гулялі рукою ля сваіх варотаў, але свісток маўчаў. Калі ў штрафной пляцоўцы збілі з ног **Дараховіча**, мяч быў аднесены ці не на метр назад, каб прызначыць звычайны штрафны, а не пенальці.

Некалькі момантаў чысцінцам далі давесці да лагічнага канчатку, аднак двойчы Чарнелю і адзін раз **Д. Мятліцкаму** (біў праз сябе) не пашчасціла.

Ля сваіх варот чысцінцы вастрыні не стваралі: надзейна адгуляў **Мароз**. Гол прапусцілі пасля шэрагу памылак, якія дапусцілі **Відрук** і **Смірноў**. Ударыў паўабаронца сапернікаў **Овадаў** метраў з дваццаці двух левай нагою ў "дзявятку". Як казаў пасля матча настаўнік гаспадароў **Уладзімір Галубко**, гэты футбаліст са ста разоў, відаць, толькі аднойчы і забіў бы.

Дынама-2 – Акадэм-Славія 0:2, Лакаматыў – Арбіта 3:0, РШВСМ-Алімпія – Верас 0:0.

| | |
|---|---|
| 1. Лакаматыў | 8 |
| 2. Азерцы | 8 |
| 3. Акадэм-Славія | 7 |
| 4. Старыя Дарогі (-1) | 6 |
| 5. Смаргонь (-1) | 6 |
| 6. Дарыда | 6 |
| 7. Дынама-2 | 6 |
| 8. РШВСМ-Алімпія | 6 |
| 9. Верас | 4 |
| 10. Арбіта | 4 |
| 11. РВАР (-2) | 0 |
| 12. Забудова | 0 |

**Бамбардзіры**: Карасёў (Лакаматыў) – 4, Жораў (Азерцы) – 3; **Селіванаў** і іншыя – па 2.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Рэаліі*

# «Забудоўцы» не жадаюць быць апошнімі

ЧЫСЦЬ. Доўжыцца псіхалагічны крызіс у чысцінскай камандзе. Футбалісты і трэнеры апынуліся пад цяжарам шматлікіх праблем. Асноўная – стаўленне да каманды з боку кіраўніцтва прадпрыемства і раёна.

Былі абяцанні, што на працягу мая камандзе аддадуць грошы за перадсезоннае харчаванне. Аднак за тыдзень да заканчэння гэтага тэрміну зробленыя разлікі толькі за студзень. Прычым такой увагай да сябе могуць "ганарыцца" далёка не ўсе гульцы.

Натуральна, узнікае пытанне, навошта наогул нейкія грашовыя разлікі ў аматарскай камандзе. Сапраўды, калі футбалісты выходзяць на поле, то павінны думаць пра футбол, перспектыўная моладзь – у першую чаргу, пра павышэнне свайго майстэрства. Аднак, якія думкі могуць прыходзіць пасля гульні, калі побач знаходзяцца траўміраваныя партнёры, што робяць аперацыі за ўласныя грошы, калі падыходзяць трэнеры іншых каманд і запрашаюць да сябе?

І як трываць судзейскі бандытызм падчас гульні? Як бы ўдала ні дзейнічаў, суддзя абавязкова будзе замінаць, што, прыкладам, здарылася ў мінулым туры. Чаму? Адказ адзін: сапернік больш заможны. І не трэба ўдавацца ў падрабязнасці.

Існаванне на Маладзечаншчыне каманды рэспубліканскага ўзроўню – ужо дасягненне. Выхаванцам гарадской ДЮСШ ёсць дзе працягваць кар'еру, і гэта добра. Два з паловай гады таму такога не было. Аднак нельга спыняцца ў развіцці – канкурэнты абганяць (зрэшты, яны ўжо і абагналі). "Забудове" пры такім раскладзе сёлета цяжка будзе змагацца за высокія месцы, але пры цяперашнім стане спраў можна і канчаткова згубіцца ў аўтсайдэрах.

Калі высокім кіраўнікам патрэбная добрая каманда, дык можна ж прыйсці ў калектыў і пагаварыць з футбалістамі. Калі ў ААТ "Забудова" складанейшая фінансавая сітуацыя, пра гэта таксама трэба шчыра сказаць і, прынамсі, у асабістай размове папрасіць патрываць яшчэ нейкі час, а не абмяжоўвацца перадачай абяцанкаў праз пасрэднікаў.

Чысцінцам цяпер, як паветра, патрэбная перамога, каб выйсці з гульнявога крызісу. Псіхалагічныя ж праблемы заўсёды вырашаюцца праз нармальныя чалавечыя стасункі. У футбалістаў таксама.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

